

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

№ 14 (143), ВЕРАСЕНЬ 2012 ГОДА

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## КУРС У "СВЕТЛАЕ МІНУЛАЕ"

**19 верасня мясцовыя ўлады сабралі на чарговы семінар увесь ідэалагічны актыў раёна. Падчас датэрміновага галасавання ідэалагічным работнікам давалі інструкцыі аб важнейшых для вертыкалі ўлады накірунках работы з насельніцтвам. Пры гэтым асаблівая ўвага надавалася ходу выбарчай кампаніі.**

Зусім не выпадкова на другі дзень датэрміновага галасавання пачало непакоіцца раённае кіраўніцтва. За два дні на выбарчыя ўчасткі адправілі ўжо 1300 шумілінцаў. Пры ўсім тым, што агульная колькасць выбаршчыкаў па Віцебскай сельскай акрузе № 21, уключаных у спісы грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах - 62 858 чалавек. У той час як па Віцебскай вобласці яўка выбаршчыкаў за два дні галасавання склала 8,2% ад іх спісачнага складу, пры сярэднім паказчыку па Беларусі 7,2%.

Даўно вядома, што шумілінскія ідэолагі заўсёды вылучаліся сваёй ідэальнай работай па забяспячэнню высокай яўкі выбаршчыкаў на ўчасткі для галасавання. Таму ніхто не сумняваўся, што адпаведныя намаганні будуць прыкладзены як на працягу датэрміновага галасавання, так і ў дзень выбараў. Як паказалі далейшыя вынікі, па Віцебскай сельскай выбарчай акрузе быў пастаўлены рэкорд краіны: яўка выбаршчыкаў склала 88, 4%.

На семінары быў прадэманстраваны ролік аб "каляровых рэвалюцыях", якія выбухнулі на постсавецкай прасторы. Свой каментар пасля прагляду дала начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Н. Захарава. Бадай што, ён мала чым адрозніваўся ад каментароў кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі пра пятую калону. Маўляў, вертыкаль улады на чале з прававым не дазволіць на Беларусі анархію, беспарадкі, якія могуць зламаць яго палітычную сістэму – краіна добра кіруемая, а "стабільнасць" забяспечана ўсяму беларускаму народу. А дэмакратыі ў краіне і так хапае, няхай Еўропа не навязвае беларусам свае "падвойныя" стандарты.

Па-ранейшаму не спыняецца практыка прымусовай падпіскі на дзяржаўныя газеты. Аб ходзе гэтак званай падпісной кампаніі далажыла галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы Людміла Шаўцова. Вядома, што кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый прадпісана праводзіць масавую кампанію падпіскі супрацоўнікаў на асноўныя рэспубліканскія, абласныя і раённыя газеты. Здаецца, па гэтаму пытанню ў раёне збояў пакуль што не было. Зараз галоўная задача ідэалагічна-прапагандысцкага апарату – не дапусціць зніжэння накладу дзяржаўных друкаваных СМІ.

Не сакрэт, што насельніцтва раёна практычна не чытае дзяржаўных выданяў. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова прайсці па цэнтральных вуліцах Шуміліна і зазірнуць у пад'езды шматпавярховых дамоў – у пераважнай большасці паштовыя скрыні пустыя. Нямала і такіх, што ўвогуле разламаныя, засмечаныя паперкамі ад цукерак ці недакуркамі.

Усе ведаюць, што існуюць дзве розныя рэчы: рэальнае жыццё і карціны жыцця, створаныя дзяржаўнай прэсай. Ды і самі людзі пра гэта адкрыта гавораць, праўда з большага ў прыватных размовах. Тое, што дзяржаўная прэса не адлюстроўвае праўдзівай рэчаіснасці, цяпер зразумела нават самым бадзёрым аптымістам. Бо калі кошты ў крамах узрастаюць удвая, а газета піша пра тое, што вертыкаль улады ідзе правільным шляхам, то тут усё кардынальна не сыходзіцца. Аднак шумілінскіх ідэолагаў гэта не турбуе. Яны таксама чыноўнікі, а чыноўнікі любяць, калі журналісты наўпрост паўтараюць іх прэс-рэлізы. А там жа ўсё ідэалагічна выверана. Навошта ўскладняць сабе жыццё вострымі пытаннямі, калі яны разыходзяцца з байкамі аб стабільнасці?

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЖЫЦЦЁ

## Адзначылі юбілей

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз афіцэраў" сёлета адзначае дваццацігоддзе. У траўні 2006 года шумілінскія афіцэры ўтварылі раённую арганізацыю з дваццаці ваеннаслужачых, якую ў той час узначаліў палкоўнік Г. Шынкевіч.

У склад арганізацыі на добраахвотнай аснове ўваходзяць афіцэры, прапаршчыкі, якія знаходзяцца на службе, у запасе і адстаўцы, члены іх сем'яў і іншыя грамадзяне. Безумоўна, што гісторыя гэтага саюза сведчыць аб жыццяздольнасці арганізацыі, яе патрэбнасці ў грамадстве. Разам з тым гэта выдатная прычына для таго, каб азірнуцца на пройдзены шлях. Зараз кіраўніком раённай арганізацыі з'яўляецца палкоўнік Валерый Жандараў. Шумілінскія афіцэры акыўна прымаюць удзел у грамадскім жыцці раёна. Да гэтага часу лічаць прыарытэтнай задачай патрыятычнае выхаванне падрастаючага пакалення. Стараюцца захаваць і прымножыць традыцыі афіцэрскага братэрства і еднасці, прымаюць удзел ва ўсіх урачыстасцях раёна. На юбілей афіцэры сабраліся ў раённым ваенкамаце, адкуль прайшлі па цэнтральнай вуліцы райцэнтра да брацкіх магілак. Тут адбылося сімвалічнае ўзнагароджанне юбілейнымі медалёмі. Актывісты саюза надалей разлічваюць папоўніць шэрагі арганізацыі.

**С. Горкі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

## ПАКІНУТЫЯ НА ВОЛЮ ЛЁСУ

**Шумілінскія чыноўнікі правялі чарговы агляд неблаганадзейных сем'яў на тэрыторыі Дабейскага сельсавета. Цяпер на іх ускладзены абавязак выявіць як мага больш гора-бацькоў, скласці спіс набалелых пытанняў і надалей сачыць за сітуацыяй. Аднак ці можна палепшыць сітуацыю толькі адными адміністратыўнымі мерамі?**

Адна з набалелых праблем нашага раёна – неблаганадзейныя сем'і, у якіх аказваюцца кінутымі на волю лёсу без бацькоўскага нагляду непаўналетнія дзеці. Дзяржава ў сваю чаргу не павінна пакідаць дзяцей у сацыяльна небяспечным становішчы, таму раённыя чыноўнікі вымушаны браць на сябе клопат па іх утрыманні і выхаванні.

На гэты раз камісія па справах непаўналетніх на чале з дырэктарам сацыяльна-педагагічнага цэнтра С. Бельчыкавай і старшынёй Дабейскага сельвыканкама І. Шалахавай праверыла 17 сем'яў, у якіх пражывае 29 дзяцей. Рэйд праводзіўся па дамах і кватэрах у вёсках Дабея, Ляжні, аграгарадку Амбросавічы, пасёлку Прыазёрны. Прынамсі, пад узмоцнены кантроль трапілі не толькі нядобранадзейныя сем'і, якія ўжо стаяць на уліку, але і гэтак званыя з групы рызыкі: шматдзетныя і няпоўныя сем'і.

Сяброўства з гарэлкай стала прычынай пільнай увагі з боку камісіі да адной жанчыны з вёскі Дабеі, якая не выконвае свяшчэнны абавязак маці па дагляду сваіх дзяцей. У хату немагчыма было зайсці: паўсюду бруд, галеча, антысанітарыя. Пэўна мелі рацыю выхавацелі, калі пераконвалі гаспадыню, што яе дзіця будзе гадавацца ў сацыяльным прытулку ў значна лепшых умовах. Сам факт знаходжання дзіцяці ў памяшканні, якое гадамі не прыбіралася, становіцца небяспечным для яго жыцця і здароўя. Тым больш, што жанчына так і не выканала ніводнага прадпісання. Цяпер чужыя людзі будуць акружаць дзіця клопатам і пяшчотаю, пакуль маці не возьмецца за розум.

Не спяшаюцца пераглядваць сваё нядбайнае жыццё і некаторыя бацькі з вёскі Ляжні. Адзін з гаспадароў так перабраў спіртнога, што не змог нічога патлумачыць пра выхаванне сваіх дзяцей. Хатнія справы былі запушчаны менавіта таму, што бацька ставіцца да іх абыякава, перыядычна злоўжываючы алкаголем.

Праўда, адна праблемная сям'я з Ляжнёў пакінула станоўчае ўраджанне. Раней яна лічылася неблаганадзейнай: маці піла, пакідала дзіця без належнага нагляду. Аднак у апошні час намеціліся зрухі да выпраўлення: жанчына перастала спажываць спіртныя напоі, як кажуць "закадзіравалася" Але ці надоўга?

У Амбросавічах выявілі зусім сумную карціну: бацькі не могуць справіцца з дачкой. Па словах настаўнікаў, яна з самага маленства адчувала дэфіцыт выхавання ў гэтай сям'і, таму імкнецца збегчы ад бацькоў. Дзяўчынка бадзяжнічае, адчувае сябе больш "утульна" у кампаніі дарослых, з якімі сама і выпівае. Пачаліся праблемы з вучобай і паводзінамі, пропуск заняткаў. А гэта пытанне – у кампетэнцыі ўрача-нарколага і псіхіятра.

Турбуе і тое, што колькасць дзяцей, якія штогод застаюцца без апекі бацькоў, у апошнія гады не памяншаецца. А гэта азначае, што тут вінаваты не толькі гора-бацькі, але недапрацоўваюць і адпаведныя спецыялісты, не створаны эфектыўныя механізмы прафілакткі сямейнай нядобранадзейнасці. Па меркаванні чыноўнікаў, асноўнай прычынай траплення сем'яў у катэгорыю нядобранадзейных з'яўляецца п'янства бацькоў. Але ці дапамогуць меры барацьбы з п'янствам з боку наркалагаў, педагогаў, работнікаў міліцыі, прадстаўнікоў мясцовай улады? Непасрэдная прычына п'янства – танны алкаголь, вінныя напоі мясцовых заводаў. Праўда, былі спробы з боку раённых уладаў неяк абмежаваць продаж таннага віна на час пасяўной кампаніі. Дапамагае мала, бо алкаголікі знаходзяць заветную бутэльку "чарніла" у спекулянтаў. А можа надыйшоў час прымяніць больш рашучыя, радыкальныя меры?

З аналізу вынікае, што адміністратыўны рэсурс, на які прывыклі спадзявацца нашы чыноўнікі ўжо не спрацоўвае. Відавочна, што трэба шукаць новыя формы работы з бацькамі, імкнуцца актывізаваць грамадства.

**Алесь Шумскі.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

## ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ПЕСНЯРАМ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**У чытальнай зале раённай бібліятэкі адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная славутым сынам Беларусі – Я. Купалы і Я. Коласу. Ушанаваць памяць класікаў беларускай літаратуры прыйшлі грамадскія актывісты, школьнікі, аматары паэзіі.**

Ініцыятарамі правядзення мерапрыемства сталі супрацоўнікі Шумілінскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Нагадаем, што сёлета адзначаецца 130-годдзе з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі. Купала і Колас, якія сталі ўзорам самаахвярнага служэння Радзіме, – з'ява унікальная. Яны – заснавальнікі новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. У іх творах закладзена тонкае адчуванне душы беларусаў, дакладнае веданне нацыянальнага побыту. Народныя песняры здолелі спалучыць асабістае з агульным, нацыянальнае з агульначалавечым.

Вечар атрымаўся багатым на адкрыцці і вельмі цёплым, як душэўная размова даўніх сяброў. Удзельнікі імпрэзы слухалі вершы песняроў у выкананні школьніц з СШ №2 Елізаветы Гусаковай і Вікторыі Озеравай, Анастасіі Мароз з СШ №1. Сваімі разважаннямі аб ролі Купалы і Коласа ў станаўленні беларускай культуры падзяліліся з прысутнымі бібліятэкаркі Таццяна Сакалова і Таццяна Ганебная.

Нягледзячы на бег часу, Купала і Колас застаюцца ў сэрцы народа. Менавіта яны раскрылі вобраз духоўнага беларуса, паказалі яго характар, адвечную прагу "людзьмі звацца". Без сумневу, творчасць класікаў беларускай літаратуры заўсёды будзе актуальнай, перадавацца ад пакалення да пакалення. Літаратурная вечарына яскрава паказала, што ў Шуміліне любяць паэзію, шчыра паважаюць і шануюць сваіх славутых паэтаў.

**Алесь Прыбярэжны.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

# Перагрузілі "прамую лінію"

**Трыццаць званкоў ад грамадзян паступіла падчас "прамой лініі", якая прайшла з кіраўніком раёна Уладзімірам Куранным. Тры доўгія гадзіны людзі скардзіліся на свае бытавыя праблемы. І хаця пытанні ў асноўным тычыліся работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, тым не менш яны пераважна насілі сацыяльна значны характар. Але гэта не зменшыла ўвагі да асабістых зваротаў, літаральна па кожнаму тэлефанаванню даводзілася даваць скрупулёзныя тлумачэнні.**

У сваіх выступленнях кіраўнік раёна неаднаразова падкрэсліваў, што дробязнымі пытаннямі недапушчальна перагружаць работу высокіх кабінетаў, бо для гэтага ёсць адказныя работнікі на месцах. Аднак ці зноў не атрымалася наладзіць іх работу, або ўзніклі непрадбачаныя абставіны, "прамая лінія" з кожным разам становіцца ўсё больш "гарачай". Шумілінцы чамусьці вырашылі, што тэлефон –найбольш дзейны пасрэднік дыялогу паміж уладай і народам, а не адпаведныя службы. Тым больш, што у ходзе размовы высветлілася, якія камунальныя пытанні магчыма было вырашыць у планавым парадку. Але з-за абыякавасці адносін спецыялістаў і кіраўнікоў адпаведных службаў іх вырашэнне зацягвалася, а то і наогул ігнаравалася. Па кожным з запытаў грамадзян з адказнымі работнікамі тых службаў, якіх тычылася пытанне, адбылася прынцыповая размова па мерах, што будуць прыняты, каб вырашыць праблему.

Так, жыхарка з Обалі Л. Слышанкова паведаміла, што вуліцах не хапае асвятлення, а грамадзянін В. Аранчак скардзіўся на адсутнасць гарачай вады. Старшыня райвыканкама патрабаваў ад камунгасу вырашыць гэты пытанні за тыдзень. Між тым, будаўніцтва новай свідравіны зноў адкладзена на няпэўны час. Як патлумачыў кіраўнік раёна, дадатковa патрабуецца 700 мільёнаў рублёў. Таму Уладзімір Куранны прасіў жыхароў горпасёлка крыху пацярпець да лепшых часоў.

Наракалі на работу камунальнікаў і жыхары з обальскіх вуліц Даўмана і Зяньковай. Неадрамантаваныя дахі, разрыты двор пасля пракладкі цеплатрасы – усё гэта ўскладняе і без таго не вельмі камфортныя ўмовы пражывання жыхароў пасёлка. У сваю чаргу галоўны інжынер камунгаса А. Догель патлумачыў, што парадак у дварах да кастрычніка будзе наведзены. Але адрамантаваць дахі, па ўсяму відаць, не атрымаецца. Дэфіцыт бюджэту не дазваляе – адкуль узяць яшчэ 11 мільёнаў рублёў?

Варта адзначыць, што ў ходзе сустрэчы шумілінцамі былі ўнесены і "глабальныя" праекты. Ад імя жыхароў, якія пражываюць за чыгуначнай лініяй выступіў спадар В. Раманаў. У прыватнасці, прапануеца ўзвесці пераходны мост праз чыгунку. Але гэтым выпадку гаворка ідзе аб капіталаўкладаннях на мільярдныя сумы, таму праект пакуль што не рэальны.

Жыхары райцэнтра казалі аб неахайнасці пад'ездаў, якія не ўбіраюцца па праццягу тыдняў. Разам з тым з боку месцічаў выказваліся думкі аб тым, што гэта паўсядзённыя справы саміх гаспадароў кватэр, а не камунальных служб.

Незразумела, чаму большасць людзей усё ж такі выходзяць на раённы ўзровень з асабістымі пытаннямі, якія могуць "разруліць" на месцы сваімі сіламі? Да прыкладу было некалькі званкоў ад жанчын з просьбай адрамантаваць ганак, замяніць рамы, устанавіць лічыльнікі вады ў кватэрах, а нехта нават папрасіў "разабрацца" з суседам. На жаль, многія нашы людзі вышкалены яшчэ савецкімі рэжымамі ў рамках таталітарнага мыслення. На іх думку, калі у раёне або вобласці толькі адзін кіраўнік, то ён для іх і цар, і бог, і воінскі начальнік. Таму і лічаць неабходным пра свае бедытрывогі найперш паведаміць адразу ў райвыканкам. Да таго ж спадзяюцца, што ўмяшальніцтва зверху паскорыць вырашэнне набалелых праблем. Дарэчы заўважана, што паўторных пытанняў такcама стала болей.

**У. Амбросаў.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# КВІТНЕЙ, НАША РОДНАЯ ВУЛІЦА!

**Святы вуліц даўно сталі традыцыйнымі ў календары культурных падзей нашага раёна. У кожнай з іх свой час і месца правядзення. У гэты раз вырашылі адзначыць свята ў гонар вуліц імя Сіпко і Валадарскага.**

Менавіта такім – яркім не толькі ад восеньскіх колераў, але і ад шчырых усмешак дзесяткаў жыхароў выдаўся вечар 21 верасня, калі ў гарадскім парку загучалі песні і віншаванні ў адрас тых, хто пражывае на гэтых вуліцах. Праграма свята складалася не толькі з віншаванняў і пажаданняў. Арганізатары пастараліся зрабіць яе разнастайнай і цікавай для ўсіх. Работнікі Дома культуры далі тэатралізаваны канцэрт, у якім паказалі гісторыю вуліц і жыццё яе жыхароў.

Зразумела, што свята напаўнялася ўспамінамі пра былое, а цудоўныя песні ўзнімалі настрой. Прыемна, што старэйшае пакаленне, якое вырасла на гэтай вуліцы, ахвотна прыняло ўдзел у фэсце. Побач са сцэнай былі разгорнуты народныя гулянні ў розных атракцыёнах, райспажыўтаварыства частавала людзей ласункамі. На фотавыставе жыхары вуліц убачылі здымкі, сваіх землякоў, што здаўна прапісаліся тут, вырасцілі дзяцей і ўнукаў, перадалі ім багаты жыццёвы вопыт. Зрэшты, было крыху сумна і ад таго, што на такіх святах прысутнічае мала моладзі, а збіраюцца пераважна сталыя людзі і дзеці.

Супрацоўніца гісторыка-краязнаўчага музея Святлана Іванова расказала гледачам пра ветэранаў вайны і працы, лепшых працаўнікоў і вядомых сучаснікаў. Дыпломамі і каштоўнымі падарункамі былі ўшанаваны пераможцы конкурсаў па добраўпарадкаванні. У намінацыі "Лепшы падворак" адзначылі сем'і Забалоцкіх і Калянковічаў з вуліцы Валадарскага.

На свята запрасілі Л. Маскалькову, дачку вядомага камісара партызанскай брыгады Антона Уладзіміравіча Сіпко, у гонар якога названа вуліца. Сіпко – наш зямляк, родам з вёскі Шодзікі. Дарэчы, ці ведаюць жыхары гэтых мясцін, хто такі Валадарскі, у гонар якога назвалі вуліцу ў Шуміліне? Пасля двух дзесяткаў гадоў варта было б чыноўнікам падумаць аб тым, што вуліцы, названыя псеўданімамі расейскіх бальшавікоў сёння проста ганьбаць не толькі раён, але і ўсю Беларусь.

**Алесь Прыбярэжны.**

ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# НОВЫ МАГАЗІН У НОВЫМ ЖЫЛЫМ РАЁНЕ

**20 верасня ў райцэнтры адбылася значная падзея – адкрыццё магазіна "Прастор". Гэты магазін будзе абслугоўваць пакупнікоў, якія жывуць у раёне СШ №2, дзе нядаўна збудавалі тры шматпавярховыя дамы.**

Ва ўрачыстай абстаноўцы перарэзаў чырвоную стужку кіраўнік раёна Уладзімір Куранны , і магазін гасцінна расчыніў дзверы для пакупнікоў. Задаволеныя пакупнікі ахвотна набывалі патрэбны тавар. Магазін у гэтым жылым мікрараёне быў патрэбен даўно, яго будаўніцтва пачалося напрыканцы траўня сіламі сваёй будаўнічай брыгады. Асноўныя работы праводзіла мінская фірма "Белерма", якая ўзвяла ў Шуміліне "Алімп" і Вецярок". На будаўніцтва гандлёвага аб'екта затрацілі адзін мільярд рублёў.

Новы магазін – прасторны, па-сучаснаму абсталяваны, з разнастайнымі таварамі паўсядзённага попыту. Гандлёвая кропка ў тутэйшым жылым раёне, якая размешчана ў зручным месцы – прыемны падарунак для мясцовых жыхароў. Магазін пабудаваны на перспектыву. Насельніцтва вырасла – многа маладых сем'яў, пакупнікоў пабольшала, жыхары маюць патрэбу ў лепшым асартыменце тавару. Акрамя трох новых дамоў, плануюць будаўніцтва яшчэ двух шматпавярховак.

Магазін будзе працаваць па прынцыпу самаабслугоўвання. Адкрыццё магазіна спрыяе і працаўладкаванню людзей, бо тут створаны новыя рабочыя месцы. Цяпер у магазіне працуе калектыў з пяці чалавек. Кіраўніцтва райпо разлічвае , што тавараабарот за месяц складзе каля 300 мільёнаў рублёў. А гэта азначае, што ён можа хутка акупіць затраты. У шумілінцаў ёсць спадзяванні, што і надалей асартымент тавараў застанецца шырокі, а кожны пакупнік знойдзе нешта на свой густ.

**С. Горкі.**

ПРАБЛЕМА КАДРАЎ

# ДЭФІЦЫТНЫЯ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ

**На Шумілiншчыне з улікам афіцыйна зарэгістраванага беспрацоўя і неафіцыйнага даволі востраЙ праблемай для многіх арганізацый, прадпрыемстваў, установ стала тэма кадравага папаўнення для сваіх калектываў. А сельская гаспадарка раёна наогул перажывае кадравы голад – амаль палова вакансій прыпадае на аграпрамысловыя прадпрыемствы. Па-ранейшаму няма маладых спецыялістаў, якія адпрацаваўшы вызначаны тэрмін, вымушаны пакідаць раён.**

На сённяшні дзень дэфіцыт кадраў адчуваюць многія галіны раёна. Прычым на кожнага беспрацоўнага прыпадае адна вакансія. Паводле ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама, колькасць вольных працоўных месцаў расце. У той час як на работу запрашаюць 220 чалавек, колькасць зарэгістраваных беспрацоўных складае 72 чалавекі. Прасцей за ўсё знайсці працу рабочых спецыяльнасцей: кіроўцы, слесары, электрыкі, будаўнікі, сталяры і цесляры, швачкі і прадаўцы.

Разам з тым сітуацыя паўтараецца з года ў год. Прынамсі, у медыцынскіх установах раёна кадравы дэфіцыт найбольш адчувальны. Да прыкладу, райбальніцы патрабуюцца 10 урачоў, тры фельчары-акушэры, тры медсястры, зубны фельчар і лабарант. Кіраўніцтва ЦРБ кожны год набірае медперсанал, спрацоўвае і мэтавае накіраванне. Аднак на пастаяннае месца жыхарства маладыя спецыялісты не застаюцца. Кіраўніцтвам райвыканкама дагэтуль не знята, бадай што, адно з самых важных – жыллёвых пытанняў, мала выдзяляецца кватэр пад ведамаснае жыллё. Між іншым, на сяле пабудавана восем аграгарадкоў, у якіх узведзена па 20-30 домікаў. Планавалася, што яны будуць заселены маладымі спецыялістамі з высокай кваліфікацыяй. Аднак прагнозы не спраўдзіліся: асабнякі засялілі далёка не лепшымі кадрамі, у некаторых дамах наогул ніхто не жыве. У райцэнтры ведамаснае жыллё не будуюць. Да прыкладу, тры нядаўнія выпускнікі акадэміі ветэрынарнай медыцыны, якія працуюць у ветстанцыі, вымушаны самі шукаць сабе жыллё. Па словах маладых людзей, працаваць даводзіцца на састарэлым абсталяванні.

Быў час, калі праца ў сельскай гаспадарцы лічылася непрэстыжнай. За апошнія гады становішча гэта пачало выпраўляцца, хоць і не так хутка, як хацелася б. Сёння аграрнаму сектару раёна ў кожнай гаспадарцы патрабуюцца каля дзесятка спецыялістаў, як з вышэйшай адукацыяй, так і работнікі сярэдняга звяна. Найбольш запатрабаванымі застаюцца заатэхнікі і спецыялісты ветэрынарнай медыцыны. Прычым выпускнікоў у гаспадаркі накіроўваюць больш чым дастаткова, але яшчэ болей спецыялістаў звальняюцца. Прычыны вядомыя. Па-першае, сціплыя аклады. Напрыклад, у ААТ "Прыазёрны мір" патрабуецца галоўны заатэхнік. Сярэднемесячны заробак –2,3 мільёны рублёў (шэраговы спецыяліст атрымлівае 1,8 млн.) . Да таго ж прапануецца жыллё – кватэра, патрабуючая рамонту. Парадаксальна, але факт: у аграгарадку для галоўнага заатэхніка не знайшлося прыстойнага катэджа. Вось такія "дастойныя" умовы працы.

Разам з тым афіцыйны ўзровень беспрацоўя застаецца ў межах аднаго працэнта. Шчыра кажучы, ад гэтага статуса таксама мала карысці, тым больш, што матэрыяльная дапамога па беспрацоўю чыста сімвалічная. Таму няма сэнсу станавіцца на ўлік, у выніку – расце схаванае беспрацоўе.

Нягледзячы на тое, што цяпер колькасць прапаноў працаваць і зарабляць у нашым раёне дастаткова, людзі едуць на заробкі ў чужы край. Пакуль жа колькасць вакансій нарастае.

**Я. Вайтовіч.**

ПАЗІЦЫЯ АБСЕ

# “ВЫБАРЫ – КАЛІ ЛЮДЗІ СВАБОДНА ВЫКАЗВАЮЦЦА. ГЭТАГА МЫ НЕ БАЧЫЛІ”

ЗАТОЕ НАЗІРАЛЬНІКІ АБСЕ ЗВЯРНУЛІ ЎВАГУ НА ВЯЛІКУЮ КОЛЬКАСЦЬ ЛАЯЛЬНЫХ ДА ЎЛАДАЎ СЯБРАЎ У СКЛАДЗЕ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ. СПЕЦЫЯЛЬНЫ КААРДЫНАТАР КАРОТКАТЭРМІНОВАЙ МІСІІ НАЗІРАННЯ ЗА ВЫБАРАМІ АБСЕ МАТЭА МЕКАЧЫ КАНЧАТКОВАЙ АЦЭНКІ ПАРЛАМЕНЦКІМ ВЫБАРАМ У БЕЛАРУСІ ПАКУЛЬ НЕ ДАЎ. АЛЕ ПАПЯРЭДНІЯ ВЫСНОВЫ ЗРАБІЎ, ПАВЕДАМЛЯЕ ЕЎРАРАДЫЁ.

**Матэа Мекачы:** «Выбары - гэта калі людзі могуць свабодна прамаўляць і арганізоўвацца. Мы гэтага не бачылі ў гэтай кампаніі. Прававая база не гарантуе таго, што выбары будуць праведзеныя ў адпаведнасці з абавязальніцтвамі АБСЕ. Былі праблемы з адвольнасцю праверкі подпісаў, а таксама не хапала нейтральнасці ў арганізацыі выбараў. Больш за 96% месцаў у камісіях займалі лаяльныя да ўраду грамадскія арганізацыі і партыі».

Асаблівую ўвагу прадстаўнік АБСЕ звярнуў на немагчымасць удзельнічаць у выбарах вядомых па прэзідэнцкіх выбарах палітыкаў.

**Матэа Мекачы:** «Вядомыя палітычныя дзеячы, якія маглі адыграць ролю на гэтых выбарах, яны альбо знаходзіліся ў турме, альбо ім было адмоўлена ў рэгістрацыі, альбо з-за судзімасці, альбо – з-за адвольных адміністрацыйных дзеянняў. І з-за таго, што была такая абмежаваная канкурэнцыя, і выбар выбаршчыкаў быў абмежаваны».

Што тычыцца пазітыву, то Матэа Мекачы адзначыў тэледэбаты. Але звярнуў увагу на тое, што яны былі не ў прамым эфіры, а ў запісы. І тое, што частка з іх была адцэнзуравана, а частка – увогуле не выйшла ў эфір з-за таго, што кандыдаты заклікалі да байкота выбараў.

У сваю чаргу кіраўнік дэлегацыі назірання за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ Антоніа Мілашоскі заявіў, што не пабачыў, каб парламенцкія выбары ў Беларусі былі праведзеныя ў адпаведнасці са стандартамі АБСЕ.

Нагадаем, напярэдадні старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына параіла назіральнікам АБСЕ ацэньваць беларускія выбары не толькі з пазіцыі «ведамаснай інструкцыі».

ШТО АТРЫМАЛІ

## ЕЎРАПАРЛАМЕНТ НЕ ЗМОЖА АДНАВІЦЬ АФІЦЫЙНЫЯ АДНОСІНЫ З НОВАЙ ПАЛАТАЙ ПРАДСТАЎНІКОЎ

«Я ГЛЫБОКА ШКАДУЮ, ШТО ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ НЕ АДПАВЯДАЛІ МІЖНАРОДНЫМ СТАНДАРТАМ СПРАВЯДЛІВАГА І ПРАЗРЫСТАГА ВЫБАРЧАГА ПРАЦЭСУ», - ЗАЯВІЎ КІРАЎНІК ЕЎРАПАРЛАМЕНТА МАРЦІН ШУЛЬЦ.

Тэкст заявы размешчаны на афіцыйным сайце кіраўніка ЕП. «У сітуацыі, калі лідэры апазіцыі застаюцца ў турме, калі некаторым апазіцыйным кандыдатам адмоўлена ў рэгістрацыі, а народу затыкаюць рот, адбылася насмешка над дэмакратычнымі выбарамі», - сказаў Шульц.

Паводле яго слоў, выбары ў Беларусі былі «азмрочаныя абмежаваннямі доступу да СМІ, перашкодамі, якія чыніліся міжнародным назіральнікам пры кантролі за падлікам галасоў, а таксама паведамленнямі пра ціск на розныя групы выбаршчыкаў».

Беларусь, падкрэсліў Шульц, паранейшаму ідзе па недэмакратычнаму шляху, пазбаўляючы сваіх грамадзян грамадзянскіх правоў і правоў карыстацца перавагамі больш цеснага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам. «Я шкадую, што ў гэтай сітуацыі Еўрапарламент не зможа аднавіць афіцыйныя адносіны з беларускім парламентам. Я ўжо даўно страціў ілюзіі адносна добрай волі беларускага кіраўніцтва ўзяць на сябе абавязацельствы для таго, каб правесці дэмакратычныя рэформы», - сказаў Шульц.

Кіраўнік Еўрапарламента падкрэсліў, што Еўразвяз павінен, нарэшце, распрацаваць эфектыўную стратэгію адносін з Беларуссю, гэта значыць «вырашыць, як цвёрда рэагаваць на абуральныя парушэнні правоў чалавека і вяршэнства закона і як падтрымліваць беларускі народ і яго грамадзянская супольнасць, якое змагаецца з многімі цяжкасцямі».

Недэмакратычнымі названы парламенцкія выбары і ў папярэдняй справаздачы прадстаўнікоў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), які быў прэзентаваны 24 верасня ў Мінску. «Многія абавязацельствы ў рамках АБСЕ па дэмакратычных правах грамадзян на свабоднае вылучэнне кандыдатаў і магчымасць свабодна выказваць меркаванне не былі выкананы», - гаворыцца ў дакуменце. Гэта, на думку назіральнікаў, падрывае давер да мінулай выбарчай кампаніі.

**«БелаПАН».**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

## АДМІНІСТРАЦЫЯ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ ПАГРАЖАЕ ДАШКЕВІЧУ ЗГВАЛТАВАННЕМ

ЛІДЭР ЗАРЭГІСТРАВАНАГА Ў ЧЭХІІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ ЎЖО 7 ДЗЁН ТРЫМАЕ ГАЛАДОЎКУ Ў КАРЦЭРЫ МАЗЫРСКАЙ КАЛОНІІ. 27 ВЕРАСНЯ СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ЧЫННІКІ ГЭТАГА РАШЭННЯ. ІХ АГУЧЫЛА НЯВЕСТА ПАЛІТВЯЗНЯ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АРГАНІЗАЦЫІ АНАСТАСІЯ ПАЛАЖАНКА.

Як паведамляе прэс-служба «Маладога Фронту», пры першай жа сустрэчы з Дашкевічам начальнік калоніі стаў нецэнзурна абражаць і зневажаць палітвязня. У тым ліку, і ціск аказваўся і па рэлігійнай прыкмеце.

Палітвязень знаходзіцца ўсяго тыдзень у Мазырскай калоніі, аднак у дачыненні да яго ўжо некалькі разоў збіралася турэмная камісія, якая пазбавіла Дзмітрыя Дашкевіча ўсіх спатканняў і зрабіла вымову.

У барак, дзе жыве каля 40 чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на сталe чыёсьці лязо. Нягледзячы на тое, што лязо не прыналежыла Дашкевічу, адміністрацыя калоніі пагражала паставіць яго на ўлік як суіцыдніка.

Пасля ўсіх здзекаў Дзмітрый Дашкевіч напісаў заяву аб тым, што пачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзела яго скамячыў і выкінуў, пры гэтым пагражаючы лідэру «Маладога Фронту» згвалтаваннем іншымі вязьнямі.

Пасля гэтых і многіх іншых інцыдэнтаў Зміцер адмовіўся выконваць любыя загады, і яго адправілі зноў на камісію, дзе далі новы тэрмін у СІЗА. Лідэр «Маладога Фронту» не збіраецца спыняць галадоўку, пакуль да яго не зменіцца стаўленне адміністрацыі калоніі.

– Дзмітрый Дашкевіч у калоніі ўсяго тыдзень. Што можа быць далей – цяжка ўявіць ... У гутарцы са мной начальнік рэжымнага аддзела прыгразіў, што калі нешта выйдзе ў СМІ – Дашкевічу будзе горш. Але я не бачу іншага варыянту, акрамя агучвання гэтых жудасных рэчаў, - заявіла Анастасія Палажанка.

28 жніўня лідэру «Маладога фронту» дадалі яшчэ год за кратамі. Яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні адміністрацыі выпраўленчай установы. Дашкевіч знаходзіцца ў турме са снежня 2010 года. У сакавіку 2011 года яго асудзілі на два гады пазбаўлення волі калоніі агульнага рэжыму нібыта за збіццё двух чалавек.

ГАНДАЛЬ ВЯЗНЯМІ

## ВЫЗВАЛЕННЕ КАВАЛЕНКІ — СПРОБА НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ МАГЧЫМЫЯ НОВЫЯ САНКЦЫІ ЕС

ВЫЗВАЛЕННЕМ ВІЦЕБСКАГА АПАЗІЦЫЯНЕРА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКІ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ СПРАБУЮЦЬ ТАРГАВАЦЦА З ЕЎРАСАЮЗАМ. ТАКОЕ МЕРКАВАННЕ ВЫКАЗАЎ ПАЛІТОЛАГ ВАЛЕРЫЙ КАРБАЛЕВІЧ.

«Перад беларускімі ўладамі стаяць дзве задачы. Па-першае, неабходна нейтралізаваць негатыўную ацэнку выбараў у Беларусі з боку еўрапейскіх структур. Па-другое, пазбегнуць магчымага прыняцця новых санкцый ЕС адносна Беларусі», — сказаў Карбалевіч.

Ён нагадаў, што беларускае пытанне будзе разглядацца Саветам міністраў замежных спраў Еўрасаюза ў сярэдзіне кастрычніка. «Каб вырашыць гэтыя дзве задачы, і зроблены такі прэвентыўны крок. Тым больш, Каваленка сам напісаў прашэнне аб памілаванні, — заўважыў палітолаг. — Думаю, што Захад цалкам гэта прыме.

Еўрасаюз зараз не зацікаўлены ў нейкіх новых негатыўных кроках адносна Беларусі.

Тым больш іх цяжка прыдумаць, а тут ёсць такая магчымасць сказаць, што, з аднаго боку, ёсць, вядома, канфлікт са Швецыяй, недэмакратычныя выбары, а з другога — вызвалілі чарговага палітзняволенага. Ёсць прычына яшчэ раз заявіць з усёй строгасцю, што трэба выконваць правы чалавека і вызваліць астатніх палітзняволеных».

Карбалевіч мяркуе, што ЕС можа абмежавацца такімі заявамі і больш не рабіць ніякіх рашучых дзеянняў. Калі ж вызвалення аднаго Каваленкі Заходу падасца недастаткова, то, зазначыў Карбалевіч, ёсць яшчэ Павел Сырамолатаў — адзін з анархістаў, асуджаных за спробу падпалу будынка КДБ у Бабруйску, які таксама напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.

«Думаю, што ён — першы кандыдат на вызваленне, калі адным Каваленкам справа не абмяжуецца», — сказаў Карбалевіч. 27 верасня быў вызвалены і Павел Сырамолатаў.

**БелаПАН.**

РЭХА РАСТРЭЛУ

## МАЦІ РАССТРАЛЯНАГА УЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ

ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА ПАДАЛА НАГЛЯДНУЮ СКАРГУ Ў ВЯРХОЎНЫ СУД 27 ВЕРАСНЯ. «СУДДЗЯ, ЯКІ НАС ПРЫМАЎ, ХАЦЕЛАСЯ Б ДУМАЦЬ, ШТО ЁН СУР'ЁЗНА ПАСТАВІЦЦА ДА ГЭТАЙ СПРАВЫ. АЛЕ ЁН НАВАТ НЕ ПАДЫМАЎ ВОЧЫ. МАШЫНАЛЬНА ПРАГЛЯДЗЕЎ, І ТО — ТОЛЬКІ ПАПЯРЭДНЮЮ. СКАЗАЎ, ШТО СКАРГА ПРЫНЯТАЯ», — КАЖА ЛЮБОЎ КАВАЛЁВА.

У скарзе больш за 50 старонак. Там пералічваюцца ўсе парушэнні крымінальна-працэсуальнага кодэкса.

У дакуменце — згадваюцца хадайніцтвы адваката, якія адхіліў суд, парушэнні права на абарону, калі адваката не пускалі ў СІЗА. А таксама парушэнне права на абскарджанне, калі Кавалёву не далі магчымасці сустрэцца і падпісаць скаргу напярэдадні казні.

У скарзе ўказваюцца факты адсутнасці слядоў выбуховых рэчываў, дадаюцца стоп-кадры відэазапісу, які не дазволілі адвакату пракаментаваць у судзе, факты парушэння выемкі відэа з метро.

Любоў Кавалёва адзначае ў скарзе, што сваім рашэннем суд пасеяў у грамадстве страх недаверу да судовай сістэмы. Адказ на скаргу мусіць прыйсці на працягу месяца.

**Віталь Ругайн, Еўрарадыё.**

ПОГЛЯД

# УСЛУЖЛИВЫЙ ДУРАК

КОНЕЧНО, ЛУКАШЕНКО ОЧЕНЬ ХОТЕЛ, ЧТОБЫ ЭТИ ВЫБОРЫ БЫЛИ ПРИЗНАНЫ. ЕСЛИ ЕВРОПЕЙСКИХ НАБЛЮДАТЕЛЕЙ ПРИГЛАШАЮТ НА ВЫБОРЫ, А ПОТОМ ГЛАВЕ МИССИИ БДИПЧ ОБСЕ НЕ ПОЗВОЛЯЮТ ВИДЕТЬ, ПРАВИЛЬНО ЛИ ВЕДЕТСЯ ПОДСЧЕТ ГОЛОСОВ - ЭТО АБСУРД, КОТОРЫЙ ХОТЕЛОСЬ БЫ КАК-ТО ПОНЯТЬ.

Первая версия – про дураков: на избирательном участке не знали, кто к ним приехал. То есть спецслужбы объявили выборам бойкот, на все забили, реализовав, наконец, свою давнюю мечту заняться теми, кем раньше занимался ОБХСС – довольными режимом. Гуляйте себе, злые западники, куда хотите!... Это с одной стороны.

А с другой – Антонио Милошоски, прежде чем его к наблюдению допустили, комиссии бейджик должен был предъявить. На котором четко и ясно написано, кто он такой, этот интеллигент в очках. Можно спорить, нужно ли нашим избирательным комиссиям уметь считать, но читать, наверное, они все-таки умеют...

В общем, версия сомнительная.

Вторая гипотеза – про умных. Нашей власти, мол, выгодно, чтобы в Беларуси был парламент, не признанный Западом. И вообще конфронтация – лучшая для нее среда обитания. Потому что тогда и враг есть, на которого можно все списать, и напрягаться с проблесками демократизации не требуется, поскольку есть большое опасение, что любая маленькая трещина режима может дать большую течь. И далее в том же духе.

Очень лестной для Александра Лукашенко выглядит эта версия, так как базируется на мифе о его крутизне, однако я бы с подобными комплиментами не торопилась. Просто потому, что если бы версия была правильной, то не требовалось бы никаких сложных построений. Ну, не приглашали бы мы европейских наблюдателей на свои выборы, как изначально грозились, – вот и вся конструкция.

Боюсь, самой близкой к истине в нашей ситуации будет третья версия – про сегодняшних белорусов.

Конечно, Лукашенко очень хотел, чтобы эти выборы были признаны. И наверняка он планировал сделать как-нибудь так, чтобы ничего серьезно в белорусских выборах не менять, но чтобы у западных наблюдателей остались от увиденного самые лучшие впечатления. В конце концов, это ведь не его выбирали, не его уровни поддержки считали. Ну, увидел бы глава миссии ОБСЕ, придя на участок, что какой-то кандидат Пупкин проиграл кандидату Жупкину. И что? Даже если этот Пупкин - кандидат власти, так и Милошеску не Геката многоглавая, везде не поспеет. На одном участке Пупкин проиграл, на других - выиграл. Но обезоружили бы главу суровых наблюдателей ОБСЕ, позволив видеть подсчет, даже не жертвуя пешкой.

Так ведь нет! Надо было держать оборону, будто охраняешь главные секреты Родины! Надо было отгонять его от стола с бюллетенями, надо было устраивать все так, чтобы глава миссии наблюдателей не дай Бог не подсмотрел, сколько там голосов на самом деле отдано за несчастного Пупкина...

Надо было так накрутить провластных наблюдателей, чтобы они на глазах у всех вырывали у председателя участковой комиссии протокол, засвидетельствовавший, что выборы не состоялись... И чтобы потом с криками «Милиция-полиция!» прямо до окружной комиссии за этим протоколом неслись и наблюдатели ОБСЕ, и наши активисты... И чтобы уже в комиссии эту, на самом деле давно озвученную на аудио и видео бумажку, прятали, переписывали, меняли...

Ну, нет тут никакого здравого смысла, никакой логики, никакого предварительного умысла. Это экспромт. Это ум такой.

Просто у нас выстроена такая система государственного управления, что теперь – что бы там Лукашенко ни планировал в политике, в экономике, в спорте – обязательно найдется какой-нибудь осел, который перекручит все планы, желая выслужиться. И все потому, что суть системы проста: чтобы каждый большой и маленький винтик послушно выполнял доведенную задачу-минимум. Иначе будет наказан.

Председателю избирательной комиссии велено дать нужный результат – и хоть Иисус Христос приди на участок – он отодвинет его от бюллетеней за кадку с пальмой. Тренеру скажут обеспечить медаль – так расстарается, что покалечит спортсмена тренировками. Главе Нацбанка дадут задание удерживать курс рубля – до обвала, до финансовой катастрофы держать будет. Скажут военным везти технику на парад к главнокомандующему – оголят все границы, «слепыми» дежурные дивизионы оставят, но повезут...

Это и есть по-белорусски, это то, что наша власть старательно выстраивает – каждый винтик без разговоров выполняет свою задачу-минимум. Правда, выполняет так, что услужливый дурак становится опаснее врага.

**Светлана Калинкина.**

БЮДЖЭТНЫЯ ЗМЕНЫ

# НАСТАЎНІКАМ І ПАЦЫЕНТАМ МАЛА НЕ ПАДАСЦА

ЧАСЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ШЧОДРАСЦІ СЫХОДЗЯЦЬ У МІНУЛАЕ. ЎРАД УЗЯЎ КУРС НА ЭКАНОМІЮ ДЗЯРЖВЫДАТКАЎ І Ў СУВЯЗІ З ГЭТЫМ У 2013 ГОДЗЕ ЗБІРАЕЦЦА РЭАЛІЗАВАЦЬ ШЭРАГ ПІЛОТНЫХ ПРАЕКТАЎ. ПЕРШЫЯ З ІХ БУДУЦЬ УВАСОБЛЕНЫ Ў ЖЫЦЦЁ Ў СІСТЭМЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ І АДУКАЦЫІ.

Мінфін чакае, што ў выніку іх укаранення адбудзецца «аптымізацыя штатаў» установ адукацыі і «аптымізацыя колькасці пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне».

Скарачэнне выдаткаў 2013 год Беларусь пачне з бюджэтных рэформаў. Улады лічаць, што неабходна мяняць прынцыпы фінансавання сацыяльнай сферы. Калі казаць аб адукацыі, то рэфармаваць фінансаванне гэтага напрамку неабходна, на думку Мінфіна, па двух прычынах.

Па-першае, Беларусь саступае іншым краінам па колькасці вучняў на аднаго выкладчыка. Калі ў Еўропе на аднаго выкладчыка прыпадае больш за 11 вучняў, то ў нас - менш за дзевяць. Такая сітуацыя, паводле ацэнак Мінфіна, прыводзіць да таго, што на ўтрыманне бюджэтнай сеткі Беларусі прыходзіцца марнаваць больш сродкаў у параўнанні з еўрапейскімі дзяржавамі.

Мяркуецца, што з 2013 года пачнецца рэалізацыя пілотнага праекта па нарматыўнаму фінансаванню 17 установ сярэдняй адукацыі. Арганізацыі адукацыі, якія ўдзельнічаюць у праекце, будуць атрымліваць фінансаванне на аснове адзінага нарматыву бягучых выдаткаў на аднаго вучня.

Паводле ацэнак Мінфіна, рэалізацыя гэтага праекта дасць магчымасць «паэтапна аптымізаваць штаты установ, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце». Зразумела, што калі эксперымент будзе прызнаны паспяховым, да такой «аптымізацыі» прыйдзецца рыхтавацца працоўным калектывам і іншых установ адукацыі.

Яшчэ адзін цікавы пілотны праект, які будзе увасоблены ў жыццё ў 2013 годзе, закране сістэму аховы здароўя. Рэалізоўваць яго плануецца на базе арганізацый Мінска і Магілёўскай вобласці. Як адзначае Максім Ермаловіч, першая частка праекта «накіравана на ўдасканаленне ўмоў аплаты працы», а другая складаецца «ў аптымізацыі бюджэтных выдаткаў на лячэнне пацыентаў у стацыянары».

На думку намесніка міністра, «кірунак на стацыянарнае лячэнне не заўсёды бывае апраўданым як з эканамічнага, так і з лячэбнай пункту гледжання».

«Таму прапануецца перадаць частковае фондаўтрыманне ва ўстановах аховы здароўя на ўзровень паліклінік, што дасць магчымасць аптымізаваць колькасць пацыентаў, якія накіроўваюцца на стацыянарнае лячэнне», – мяркуе Максім Ермаловіч.

«Аптымізацыя штатаў» установ адукацыі напэўна прывядзе да таго, што многім супрацоўнікам школ прыйдзецца шукаць іншую працу. У той жа час «аптымізацыя бюджэтных расходаў на лячэнне пацыентаў у стацыянары», хутчэй за ўсё, справакуе рост нагрузкі на паліклінікі. «На дадзены момант паліклінікі і так перагружаны, і калі да іх фактычна дадаць яшчэ« дзённы стацыянар », то гэта яшчэ больш ўскладніць іх працу», - лічыць Глеб Шымановіч, эканаміст Даследчага цэнтра ІПМ.

Было б, напэўна, правільна, каб праекты рэформаў у сацыяльнай сферы, з якімі сёння выступае ўрад, выносіліся на публічнае абмеркаванне. Тое, што змены наспелі, зразумела. Аднак механізм іх рэалізацыі, калі справа датычыцца сацыяльнай сферы, неабходна ўзгадняць з грамадствам. Хоць бы таму, што дзяржслужачыя па аб'ектыўных прычынах далёка не заўсёды адэкватна ўспрымаюць сітуацыю ў сацыяльнай сферы.

Многія беларускія чыноўнікі, дарэчы, абслугоўваюцца ў спецыялізаванай клініцы (вядомай больш як «лечкамісія»), дзе чэргаў практычна няма і якасць абслугоўвання пацыентаў - на парадак вышэй. Таму, каб адэкватна разумець сітуацыю ў ахове здароўя і праводзіць рэформы па ўсёй краіне, дзяржслужачым не перашкаджала б часам кансультавацца з народам, які лечыцца ў звычайных паліклініках.

Гатоўнасць уладаў ісці на бюджэтныя рэформы эксперт звязвае не толькі з леташнімі падзеямі, але таксама і з надыходзячымі выплатамі па вонкавым абавязку. «У немалой ступені патрэба ў бюджэтных рэформах і пераход да новай сістэме бюджэтавання, арыентаванай на вынік, абумоўлены неабходнасцю ажыццяўлення значных выплат па вонкавым дзярждоўгу ў бліжэйшыя гады», - кажа аналітык Аляксандр Муха.

Па дадзеных Мінфіна, у 2013-2014 гг. Беларусі давядзецца пагасіць па вонкавым дзярждоўгу каля 6 млрд. даляраў. «Маючыя адбыцца плацяжы прымушаюць больш эканомна падыходзіць да бюджэтных выдаткаў і накіроўваць іх толькі ў тыя праекты, якія рэальна могуць прынесці аддачу», - рэзюмаваў Аляксандр Муха.

***(Скарочана)***

**Дзмітрый Заяц, naviny.by.**

КАРУПЦЫЯ КВІТНЕЕ

# БЫВШИЙ ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ГОМЕЛЯ ЗА РЕШЕТКОЙ

В БЕЛАРУСИ ГРЯНУЛ ОЧЕРЕДНОЙ КОРРУПЦИОННЫЙ СКАНДАЛ. ПОД СТРАЖУ ЗАКЛЮЧИЛИ ЭКС-ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ГОМЕЛЬСКОГО ГОРИСПОЛКОМА ВИКТОРА ПИЛИПЦА. КАК СООБЩАЕТ БЕЛАПАН СО ССЫЛКОЙ НА СЛОВА НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ИНФОРМАЦИИ И СВЯЗИ С ОБЩЕСТВЕННОСТЬЮ СЛЕДСТВЕННОГО КОМИТЕТА БЕЛАРУСИ ПАВЛА ТРАУЛЬКО, ПИЛИПЕЦ ПОДОЗРЕВАЕТСЯ В СОВЕРШЕНИИ ПРЕСТУПЛЕНИЯ ПО ЧАСТИ 3 СТАТЬИ 426 УК (ПРЕВЫШЕНИЕ ВЛАСТИ ИЛИ СЛУЖЕБНЫХ ПОЛНОМОЧИЙ).

Слухи об аресте Виктора Пилипца ходили еще в начале августа. Молва связывала «задержание мэра» с недавним арестом Комитетом госбезопасности должностных лиц управления капитального строительства (УКС) Гомельского горисполкома. Однако тогда Гомельский горисполком опроверг информацию об аресте мэра и официально заявил, что Виктор Пилипец приступит к исполнению своих обязанностей 7 августа после окончания трудового отпуска.

Через три недели Лукашенко освободил Виктора Пилипца от должности председателя горисполкома, напоминает «Наша Ніва». Тема скандала с гомельскими коррупционерами в очередной раз всплыла на «Дожинках» в Горках. Лукашенко рассказал журналистам о злоупотреблениях и нарушениях закона со стороны отдельных чиновников.

— Некоторые чиновники, как это случилось в Гомеле, брали десятками квартиры и перепродавали, а деньги клали себе в карман. Сегодня уголовное дело заведено, и не один чиновник со своими родственниками и приближенными сядут на скамью подсудимых, — пообещал глава государства.

Любопытно, что чиновник, которого имел в виду Лукашенко, не взялся из ниоткуда. Виктор Пилипец с июля 2007-го работал помощником президента – главным инспектором по Витебской области, с 2009-го – председателем Гомельского горисполкома.

Арест бывшего мэра Гомеля не первое громкое коррупционное дело этого года. Не так давно вся страна обсуждала скандал, связанный с арестом первого зама мэра Минска. Игорь Васильев попросил у представителей европейского инвестора полмиллиона долларов за «благоприятное решение вопроса». Чиновника взяли прямо в кабинете после получения первой части взятки в размере $ 250 тыс.

Или вспомните громкое дело бывшего заместителя министра внутренних дел Евгения Полудня. В ходе следствия выяснилось, что замминистра неоднократно получал от должностных лиц внутренних органов материальные ценности и денежные средства.

Пока чиновники набивают себе карманы, Лукашенко требует от Генпрокуратуры усилить борьбу с коррупцией. Вот только в результате его 18-летней неустанной борьбы с этим явлением взяточничество и превышение служебных полномочий в коридорах власти почему-то расцветают буйным цветом.

**Олег Мальчишкин.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.09.2012 у 19.05.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.